# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1563) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 27 КРАСАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.


Вiншуем са Святам Працы 1 мая

## „ФАСТЫ"

Хто ехаў дарогай з Элка ў Беласток, той праязджаў каля прыгожай гістарычнай царквы ў невялікай вёсцы Фасты, у якой жывуць пераважна беларусы. Вёска ў 2 км ад Беластока. Ад гэтай вёскі назву ўзяло тэкстыльнае прадпрыемства, якое знаюць не толькі ў Польшчы, але і ў свеце. У свеце таму, што адгэтуль тканіны ідуць у Югаславію, СССР, Нарвегію, Францыю, Бельгію, Швецыю і многія іншыя краіны.

Беластоцкае тэкстыльнае прадпрыемства „Фасты" існуе ад 1953 года. У гісторыі Беластока гэта была найбольшая будоўля 6-гадовага плана. Беластаччане бачылі ў гэтым плане паскарэнне выхаду нашага рэгіёна з гаспадарчай адсталасці. Праект пабудовы фастаўскага камбіната нарадзіўся на дошках Маскоўскага бюро праектаў. З СССР мы атрымалі тэхнічную дапамогу. Машыны на прадзільны аддзел закупілі з Каломенскіх заводаў тэкстыльных машын „Глаўлегмаш" у Пензе. Маладыя людзі рваліся да работы. Цяжка сёння паверыць, што ўжо ў 1955 годзе працаваў прадзільны аддзел. Некаторыя рабочыя з лёгкай прамысловасцю спаткаліся першы раз у жыцці. Пачынаючых працу трэба было навучыць прафесіі. З розных мясцін Беласточчыны, пераважна з перанаселеных вёсак, прыходзілі маладыя дзяўчаты, якіх накіроўвалі ў Лодзь і ў Бяляву на вучобу. Да сённяшняга дня тут працуюць людзі родам з Крынак, Гарадка, Мілейчыц, Плёсак, Дзяніскаў, Бандароў і многіх іншых беларускіх вёсак.

У 1959 годзе былі пабудаваны іншыя аддзелы, такія, як фарбавальня і ткальня каляровых тканін. Тут замантавалі нямецкія і італьянскія ткацкія станкі (кросны). У 1963 годзе вырасла быццам з-пад зямлі велізарная ткальня для белых тканін з польскімі машынамі. У гэтым самым годзе ў „Фастах" будуецца найбольшая і навейшая на той час у цэлай Еўропе выканчальня хімічнай апрацоўкі валакна. Машыны ўстанаўліваюць інжынеры з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. 1967 год — час пабудовы галандскай фільмовай друкарні для друку сукенкавых тканін, першай у Польшчы.

У тыя гады „Фасты" — гэта была навінка. Тут паўстаюць асветныя фільмы, не выходзяць адгэтуль журналісты. У „Фастах" працуе цяпер амаль 5 тысяч людзей. Работа праходзіць на тры змены. Не кожны паверыць, што дзённая прадукцыя гэта 200 тысяч метраў гатовай тканіны. Гэтага матэрыялу хапіла б, каб выслаць дарогу з Беластока ў Варшаву. Тут паўстаюць рознага роду тэкстыльныя вырабы: плашчовая тканіна, падкладкі, паркалі, друкаваныя матэрыялы на сукенкі, тэхнічныя тканіны і шмат іншых. Кожны асартымент мае сваё прызначэнне. Варта сказаць, што сярод такіх назваў, як Цэзар, Джына, Данута, Ізольда, Амелька, Галька, ёсць высокай якасці тканіны, якім далі беларускія назвы: Лёня, Мікалай, Іван. На камбінаце „Фасты" працуе многа беларусаў. Многія з іх займаюць высокія і адказныя пасады. Напрыклад, галоўным бухгалтарам з 1957 года працуе мгр Рыгор Баніфацюк, ён родам з вёскі Войшкі. Кіраўніком бюро выканчальні з'яўляецца мгр Зіна Кердалевіч родам з Плёскаў. У прадукцыі працуюць беларусы: Юрый Бароўскі, Уладзімір Богус, Канстанцін Харкевіч, Аляксандр Мусько, Канстанцін Мацкевіч, Уладзімір Макарэвіч і многа іншых, усіх немагчыма пералічыць. Нашыя людзі вельмі актыўныя ў грамадскай дзейнасці. Пераважна ўсе належаць да прафесіянальных саюзаў, некаторыя дзейнічаюць у партыі, яны заўсёды прыкладныя ў рабоце.

Тэкстыльнае прадпрыемства „Фасты" ўвесь час разбудоўваецца, мадэрнізуецца, развіваецца. 60 прац. калектыву — гэта жанчыны. Праца жанчын нялёгкая. Адна ткачыха патрапіць абслужыць нават адзінаццаць ткацкіх станкоў.

У 1978 годзе „Фасты" ўзнагароджаны Ордэнам Штандара Працы I класа.

Л. Леанюк
Фота з архіва



## ПАД ГРУКАТ ТРАКТАРАЎ

Над палямі нясецца ўжо грукат сельскагаспадарчай тэхнікі. За час свайго існавання спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў сталі магутнай сялянскай паслугова-гаспадарчай арганізацыяй. На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства аб'ядноўвае яна зараз амаль 60 тысяч членаў, якія сваю грамадзянскую актыўнасць праяўляюць у 1224 сельскагаспадарчых гуртках.

Да гэтай арганізацыі аxвотна таксама горнуцца і жанчыны, утвараючы свае гурткі вясковых гаспадынь. Лік іх дасягае амаль палавіны агульнай колькасці яе членаў. Сярод жанчын надалей вялікім поспехам карыстаюцца такія грамадска-гаспадарчыя мерапрыемствы, як рознага роду курсы, у тым ліку і вясковыя зімовыя школы здароўя або грамадска-палітычнага выхавання, нарыхтоўкі ежы і запасаў харчавых прадуктаў, асабліва мясных; конкурсы пад лозунгам: „Больш малака высокай якасці!" і „Больш агародніны, фруктаў і кветак!" Жанчыны, аб'яднаныя ў гуртках вясковых гаспадынь, наладзілі ў вёсках 280 пазычальняў (пракатных пунктаў) пасуды, а летам, у час гарачых палявых работ, паклапаціліся яны, каб аж 4 тысячы дзяцей дашкольнага ўзросту знайшло ў мінулым сезоне належную апеку, каб іх мамы спакойна, пад грукат трактараў, маглі памагаць бацькам і мужам.

Маёмасць 39 спулдзельняў сельскагаспадарчых гурткоў, якія зараз дзейнічаюць на Беласточчыне, ацэньваюцца на 6 мільярдаў злотых (па цэнах з 1985 года). Трэці год ужо пад рад вядуць яны сваю дзейнасць на поўным фінансавым разліку і асноўны ўплыў на кірунак гэтай дзейнасці маюць грамадскія прадстаўнічыя органы, у першую чаргу — агульны сход членаў і грамадская рада спулдзельні, якая вызначае напрамкі развіцця сваёй спулдзельчай арганізацыі, яе фінансавую гаспадарку, фармаванне цэнаў на сельскагаспадарчыя ды іншыя паслугі, каб праўленне спулдзельні сваю негаспадарнасць не прыкрывала празмерным павышэннем цэнаў. Яна таксама дае

(Працяг на стар. 3)

### ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## АДБОЙ

Падобна як Даніла, доўга не пратрываў у верасні Апостальскай сталіцы і ў саюзе з каталіцкімі дзяржавамі: Ордэнам крыжакоў, Мазоўшам і Малапольшчай другі памазанік у каралі — вялікі князь літоўскі Міндоўг. Мабыць, ён і на самай справе прыняў хрышчэнне па каталіцкаму абраду па дыпламатычных меркаваннях і неглыбока пераняўся ім, а гэта выклікала зласлівую плётку, якую не прамінуў перадаць непрыхільна настроены да Міндоўга галіцка-валынскі летапісец: „Хрышчэнне яго было фальшывае... Ён складаў ахвяры сваім багам, спальваў целы нябожчыкаў і адкрыта спраўляў свае паганскія абрады", — чытаем у Галіцка-Валынскім летапісе. Несумненна, што гэты запіс моцна перабольшвае „паганства" Міндоўга, але нейкая крышынка праўды ў ім ёсць.

Міндоўг быў дасканалым палітыкам. Ён увачавідкі пераканаўся ў мізэрнай вартасці буда-

(Працяг на стар. 3)

## СХІЛЬНАСЦІ ПА-СУЧАСНАМУ

Штодзённы псіхічны камфорт — з'ява, якая агортвае ўсё глыбей грамадскасць Польшчы. Людзі неяк адвыкаюць ад „лішняга і клапатлівага" напружання, асабліва ў нашым беларускім асяроддзі. Квітнее стэрэатып: „навошта занадта многа ведаць". І сапраўды, у нашых умовах час ад часу лепш чагосьці не ведаць і жыць паводле правіла: „Мая хата з краю...". Успрыманне менш ці больш праўдзівых звестак без мэты іх глыбейшага аналізу задавальняе многіх.

Хвалююць нашу грамадскасць празмерныя ўцёкі моладзі з малых мястэчак і вёсак у гарады. Але ўжо менш непакоіць лёс пакінутых гаспадарак, ці жабрачыя (на пачатку) умовы жыцця гэтых жа добраахвотных уцекачоў. Дзяўчаты і хлопцы (яны ў меншай ступені) з усіх сіл імкнуцца да бетоннай „выгоды", бачачы, дарэчы, толькі там сваю будучыню. Гэты працэс не спыніць, бо і ці варта? Хаця, па праўдзе, прывязанасць беларусаў да зямлі была спакон вякоў вельмі вялікая. Як жа нядаўна яшчэ вяліся спрэчкі або і судовыя працэсы за зямлю, за яе невялікую палоску, кавалачак. Сыны бацькі-селяніна дзерліся між сабой за бацькоўскую гаспадарку, а цяпер... таксама сварацца. Толькі наадварот, за тое, каго пакінуць на бацькоўскім. І ніхто не хоча. Напрыклад, сёння ў Орлі трэцяя частка зямлі належыць ПФЗэту, значыць, бацькам пакінутая. Перасталі існаваць праблемы „голаду зямлі", а з часам і перанасялення вёсак. Выступілі: непашана да зямлі, абыякавасць да працы, ахвота да камбінацый, дэмаралізацыя вясковай грамадскасці, п'янства. Напрыклад, закон продажу спіртных напіткаў пасля першай гадзіны функцыяніруе паразнаму ў многіх вясковых крамах. Гарэлку можна купіць, калі толькі захочацца, і то зусім легальна. Колькі маем цяпер сёлаў, дзе хаты стаяць з забітымі вокнамі! А ёсць і вёскі ўвогуле пакінутыя. Чаму моладзь так ахвотна пакідае сямейныя гнёзды, дзеля чаго? Ці толькі таму, каб за нізкія заробкі гібець у ананімным асяроддзі горада? Бадай ёсць жа аб'ектыўныя прычыны гэткага становішча, а не толькі цяга да ўмглістага камфорту...

Якія ўмовы культурнае, спартыўнае, эканамічнае, грамадскае, ці сацыяльнае дзейнасці адкрываюцца перад вяскоўцамі? Ці моладзь вясковая мае такія самыя магчымасці развіцця сваіх прыродных талентаў, як у горадзе? Даволі толькі глянуць на колькасць асяродкаў культуры, спартыўных клубаў, бібліятэк, кіно ці спецыялістаў, іх узровень, ды абсталяванне аб'ектаў. Нічога дзіўнага, што ў гэтым „спаборніцтве" выйграваюць мясцовыя забягалаўкі з алкаголем, або вясковыя крамы з гэтымі напіткамі. Стварыўся ўжо нейкі стэрэатып жыцця.

Самае горшае, што моўчкі яго ўсе прымаюць. Возьмем, для прыкладу, маладога чалавека, жыхара вёскі, які недзе працуе. Які ход яго жыцця? Вельмі просты: праца, а пасля... гарэлку піць ды жанчыну „задавальняць", часам тэлебачанне, радзей на нейкай забаве пагуляць. Зразумела, у гэтым апошнім без гарэлкі не абыдзецца. Падобны ўзор жыцця характэрны і гарадскім жыхарам, з рознай ступенню адукацыі.

Вялікую грамадскую і культурную ролю адыгрывалі калісьці настаўнікі. Людзі ішлі да іх параіцца ў сваіх і грамадскіх справах, акружалі пашанай. А сёння? Не мае даўняй пашаны настаўнік і не выходзіць ён да людзей як арганізатар ці інспіратар руху. З другога боку — будзь тут грамадска ахвярны, калі не хапае матэрыяльных сродкаў дацягнуць да чарговае зарплаты. Асноўная зарплата настаўніка нямногім перавышае 10 тыс. зл., гэта значыць: трэба дапрацаваць і камбінаваць, каб дацягнуць да першага. Не нагадваю падрабязна пра матэрыяльныя ўмовы іншых спецыялістычных кадраў. Хтось скажа: „О, толькі пра грошы". Ну што ж, лепш быць багатым і здаровым, чымсьці бедным і хворым.

У нашай краіне недахопы ліквідуюцца часовымі сродкамі, і гэта здаўна ўжо так. Чуеш пра барацьбу з п'янствам, наркаманіяй, зладзействам, але гэтак жа ліквідуем толькі вынікі дрэнных з'яў. А прычыны іх застаюцца някранутымі. Што з таго, калі прысудзяць каму-небудзь штраф, або дадуць іншае пакаранне. Трэба глянуць на тое, чаму ён украў? Да часу, пакуль не пачнём ліквідаваць прычыны зла, а не яго вынікі, жыццё нашага грамадства надалей будзе хіліцца ў горшы бок, у кожным яго аспекце. Гэтак жа, і ў псіхічным камфорце нас, беларусаў. **Юрка Ляшчынскі**

## ТАК БЫВАЕ...

### СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЕ ПАДАРОЖЖА

Галенцы было 27 гадоў. Мнагавата. У старых дзеўках неахвотна аставацца, ды што рабіць, калі ніхто не браў. Бедная яна, на хутары брат астаўся. А дзяўчына гладкая, і лыдка нябрыдкая, і пашыць на сябе ўмее. Нарэшце пасваталі яе Жоржыку. Пашлі Галенка з Жоржыкам на луг, пахадзілі, узяўшыся за рукі, а праз месяц вяселле. І палюбіць не было калі. Жоржыку 36 ужо было, дзе там яму да любоўнай гаворкі.

Дрэнны знак быў, калі ў вяселле з чыстага неба пярун у таполю ўперыў, а пасля пра яго забылі. Пачалося жыццё. Двое дзяцей накарміць, жывіне даць, карову падаіць, усюды памыць, старому цесцю, што вечна дагрызаў, у міску што падкінуць. Час быў толькі смаркачы дзецям падцерці, а пра ўсе блакітныя мары выпешчанай дзявіцы і след прастыў. І толькі тады Гэлька выпраставалася і зноў глянула ў неба, калі трэба было адагнуцца ад зямлі і легчы ў пасцель. Пячонка разбалелася.

У санаторый паехала Галенка. Вярнулася — і не тая баба. Вельмі моцна заняўся быў ёю шустры інжынер з Дэмбіцы. Пісьмо пасля прыслаў доўгае, а ў ім „вечна кахаючы" ўспамінаў пра салодкія гадзінкі ў „Длугаполі-Здрою".

Спакавала Гэлька чамаданчык, дзяцей паслала да бабкі, узяла трохі грошай і кніжачку ПКО ды паехала ў Беласток. З Беластока паслала Роберту тэлеграму і падалася ў Варшаву. Пад Варшавай пераначавала ў сваёй былой добрай сяброўкі з пачатковай школы. На наступны дзень вырушыла далей. За апошнія грошы ў Дэмбіцы ўзяла таксі і паехала на адрас свайго каханага.

Застукала. Дзверы адчыніў Роберт. За яго плячыма — маслянае святло, хмары дыму, лямантуе магнітафон, радасна шумяць людзі.

— Гэленка — мая кузіна з Беластока! — і ўсе засмяяліся.

Налілі Гэльцы шклянку гарэлкі, уваткнулі ў рукі агурок, пасадзілі на канапе.

— Пі, што ты, хворая? — падсунула ёй шклянку, калі Галенка не вельмі цягнулася да піцця, бо вочы яе ліплі ад стомы, маладая дзяўчына ў кашульцы без бюстгалтара.

— Роберт, я пайду трохі памыюся! — паднялася Гэлька і асцярожна, мінаючы ляжачых хто-дзе гасцей, падалася ў ванную.

Роберт трэснуў дзвярыма, перакрунуў ключ. Твар яго спацелы, вясёлы раптам змяніўся, забегалі мускулы скіվіц.

— Ох, Роберт, як я змучылася...

Гэлька мокрай рукою адгарнула скасмачаныя валасы. Глянула ў люстэрка, у якім угледзела змучаны, запылены твар 34-гадовай жанчыны, мяшкі пад вачыма і размазаную туш, якую яшчэ ў Варшаве налажыла на яе павекі добрая сяброўка.

— Скінь гэтыя лахманы! Прынясу табе сукенку сваёй жонкі. Закрый дзверы і нікога не пускай. Лезь у ванну!

Галенка скінула прапацелую сукенку з крэмпліна, наліла вады ў ванну, апусцілася ў ваду з палёгкай. Вада і слёзы горка сплывалі па яе губах. Здавалася ёй, што ад стомы, толькі што выпітай гарэлкі і ўзрыву жалю находзіць на яе цяжкая дрымота і яна на смерць засне ў гэтай вадзе...

У дзверы хтось застукаў. Галена вылезла з ванны, накінула на мокрае цела халат у турэцкія ўзоры. Роберт прынёс сінюю сукенку.

— У цябе ёсць жонка?! А ты гаварыў...

— Перад разводам. Ужо паўгода як не жывем разам. Ды гэта — неістотна! Хутка выцірайся.

Роберт закрыў дзверы, абняў Галенку, а тая, шчаслівая, прыліпла да яго. І зноў салодкія мінуты для яе трывалі вечнасць...

Галенка нацягнула сукенку. Цеснаватая была, хаця пашытая шырока. „Пахудзець трэ было б", — падумала Гэлька, зацягваючы замочак.

Госці спявалі цяпер „гураля".

## ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

## І СМЕРЦІ НЕ БАЯЛІСЯ...

След вёў мяне ў Мілейчыцы, куды рашыў я чым хутчэй адправіцца, каб адшукаць роднага брата Мікалая Сцяпанавіча Бартнічука — сакратара антыфашысцкага камітэта на Кляшчэлеўскі раён. Але дзядзька Антон Акоцюк усё яшчэ не хацеў адпусціць мяне са сваёй гасціннай хаты. Давялося выслухаць яго ўспаміны пра трывожны час акупацыі і пра бандыцкія здзекі ў першыя гады пасля вайны.

— Разумееце, як гэта было, — гаварыў дзед Антон, — удзень гітлераўцы жыць чалавеку не давалі, а ноччу — партызаны прыходзілі. Немцы забілі ў нас Трахіма Паўлючука і Валодзьку-антыфашыста...

— Тут, у Рагачах, зараз пасля вызвалення ад гітлераўцаў, партыю арганізавалі мае родныя браты: **Васіль і Косцік**, па прозвішчу **Матыевічы**, — сказала цётка Марыя, жонка Антона Акоцюка. — Абодва яны ўжо не жывуць. Васіль памёр ад старасці, так сказаць, уласнай смерцю, але Косціка... — яе голас раптоўна заламаўся і вочы напоўніліся слязьмі.

— Яго бандыты ў лесе замучылі, — выручыў жонку Антон Акоцюк.

— А каб вы ведалі, як над ім здзекаваліся, пакуль яшчэ жыў! — заплакала цётка Марыя. — Калі мы яго абмылі, каб апрануць і ў труну пакласці, дык цяжка было знайсці цэлае месца на яго целе. Ногі і рукі паламаныя, вочы выбітыя, нос адрэзаны, усюды застыўшыя раны...

Усхваляваўся таксама дзядуля. Рукі ў яго затрэсліся, шчокі задрыжэлі і не змог ён далей гаварыць. Аказваецца, што і ў яго дзеля гэтага ёсць абгрунтаваныя асновы. Ад 1981 года Антон Акоцюк ужо на пенсіі. Гэтую пенсію ён сапраўды заслужыў цяжкай працай аж да 76 года жыцця. Далей цягнуць сваю гаспадарку не хапіла яму ўжо сілы. Давялося аддаць зямлю дзяржаве, бо ніводнае з дзевяці дзяцей не захацела ас-



**Дзядзька Іван Бартнічук з Мілейчыц мае за сабою 80 гадоў жыцця і баявы шлях ветэрана другой сусветнай вайны: ад Варшавы — у 1939 годзе, да Монтэ-Касіна — у 1944 годзе.**



Дым выядаў вочы. Галенка запала ў мяккае крэсла. Чула, як гарачы алкаголь плыве па жылах, як ліпнуць вочы. У шклянку ўсё даліваў то гарэлку, то віно худы, нямыты бландзін з рэдкай бародкай — мастак, зрэшты, як прадставіўся.

— Пекная Галена з Беластока, а што вы думаеце аб абстракцыянізме? — дапытваўся, пхаючы доўгія вузлаватыя пальцы ў Галенчына дэкальтэ.

— Божа мой, які смакавіты Рубенс... — мармытаў сусед з канапы.

Гэлька позіркам шукала Роберта. Той мяняў пласцінкі, смяўся, піў многа, сыпаў анекдотамі — быў душою кампаніі. Дзяўчат было многа, і, як горка заўважыла Гэля, па 18-22 гады, не болей. Адна з іх, тоненькая, проставалосая бландзіначка сядзела на падлозе каля Роберта і моўчкі глядзела ў яго твар, курачы папяросу. Пасля стала за яго плячыма і пачала гладзіць яго валасы. Яны ўсталі і выйшлі ў другі пакой.

Галенка хацела сарвацца, бегчы, крычаць. Здавалася ёй, што штосьці перавярнулася ў яе жыцці. Ад шклянкі, якою кінула аб сцяну, пырскнула шкло.

— Супакойся, кабетка! — прытрымаў Гэльку мастак, які вутлым сваім целам амаль не павіс на ёй.

Гэлька залілася слязьмі. Плакала, крычала, гаварыла напросту, пакуль не заснула.

Прачнулася ад нейкага гоману, трэску і халоднага паветра, якое ўдарыла яе па вачах. Гэлька сарвалася, абцягнула задзертую сукенку.

Гарэла верхняе святло. Госці таўкліся пры дзвярах. Мастак нагой адсоўваў з дывана пад сцяну набітае шкло, бутэлькі і талеркі з мокрымі недакуркамі. Роберт мутна тлумачыўся маладой жанчыне, якая стаяла каля старэйшага знерваванага чалавека.

— Глянь, тата, як яны нішчаць маё! Пасля разводу — калі ласка, спрашай каго хочаш, але аддай, хуліган, маю палавіну цэлую! Во, шафу парысавалі! А тут якісьці хамут набляваў! Вон, вон з мае хаты!

Госці хутка выйшлі. Галенка сядзела, адранцвелая.

— Роберт, што тут такое? — нарэшце, выдушыла з сябе.

Жанчына падскочыла да яе. Асляпіў Гэльку страшэнны боль. Маляваныя чырвоныя пазуры разаралі яе твар васьмю палоскамі ад вачэй да грудзей.

Галена вярнулася на Беласточчыну праз месяц. Твар загаіўся, але ніколі не супакоілася душа. Жыве цяпер Галенка спакойна, дзяцей гадуе, з пячонкай па дактарах не ездзіць. І чым старэйшая, тым менш прыкметныя палосы на яе твары. Яшчэ трохі — і не заўважыш іх між маршчынамі.

**Міра Лукша**
**Мал. У. Петрука**




## БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ

**На аладкі** бярэм: 12 бульбін, 2 сталовыя лыжкі мукі, 2-5 сталовых лыжак алею, 1 яйцо, 2-3 зубкі часнаку, 80 г саланіны, перац, соль.

**На грыбны фарш:** 30 г сушаных грыбоў, 1 сталовую лыжку тлушчу, 2 цыбуліны, 1/4 шклянкі грыбнога булёну, соль.

**На мясны фарш:** 400 г свініны, 2 цыбуліны, 1 сталовую лыжку масла, перац, соль.

**На рыбны фарш:** 250 г філе рыбы, 15 г сушаных грыбоў, 2 цыбуліны, 1 яйцо, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.

**Фарш з яечак:** 4 яечкі, 1 цыбуліна, 1 сталовая лыжка масла, соль.

Абабраную бульбу сцерці на бульбяной тарцы. Атрыманую масу крыху адціснуць, дадаць да яе муку, соль, перац, а таксама яйцо і ўсё гэта вымешаць. Масу выкладаць лыжкай на моцна разагрэтую патэльню (у форме аладак) і смажыць з абодвух бакоў, пакуль не атрымаецца залацісты колер. Гатовыя аладкі падаваць са скваркамі і расцертым часнаком.

Аладкі гэтыя можна фаршыраваць грыбамі, яечкамі, рыбай ці мясам. У такім выпадку бульбяную масу ў форме аладак трэба класці на моцна разагрэтую патэльню. На кожную аладку класці крыху фаршу, закрываць яго бульбяной масай і смажыць з абодвух бакоў, пакуль аладкі не будуць мець залацісты колер.

Аладкі, фаршыраваныя грыбамі, заліваем смятанай, а фаршыраваныя рыбай ці мясам — растопленым маслам, пасля чаго ўстаўляем гэтую страву на хвіліну ў духоўку.

**Грыбны фарш.** Сушаныя грыбы перабраць, дакладна памыць іх у халоднай вадзе і намачыць на 3-4 гадзіны. Калі размокнуць, памыць іх яшчэ раз, пасля чаго зварыць у вадзе, у якой яны мачыліся. Варыць каля паўтары гадзіны, не дадаючы солі. Звараныя грыбы дробна пасячы, дадаць падсмажаную цыбульку і грыбны булён, каб фарш быў больш сочны. Усё гэта вымешаць.

**Мясны фарш.** Мяса прапусціць праз мясарубку, дадаць падсмажаную цыбулю, соль, перац і ўсё разам вымешаць.

**Рыбны фарш.** Рыбнае філе прапусціць праз машынку і атрыманую масу крыху падсмажыць на патэльні. Пасячы цыбульку і дадаць у фарш, хвіліну смажачы разам. Дадаць адпаведна падрыхтаваныя грыбы (звараныя, дробна пасечаныя і падсмажаныя). Усё вымешаць, дадаць пасечанае яечка, соль і перац.

**Фарш з яечак.** Крутыя яечкі дробна пасячы і змяшаць з падсмажанай цыбуляй.

**Гаспадыня**

## І ХТО ТУТ ВІНАВАТЫ?

Пасля сходу ў Гміннай управе ў Бельску, уладкаваўшы свае пакупкі, пайшоў я на чыгуначную станцыю, каб адтуль даехаць у Леўкі ды дабрацца дамоў. Да ад'езду цягніка заставалася мне каля 20 мінут, і я прысеў на лавачцы каля нейкіх юнакоў, любуючыся першымі веснавымі праменнямі сонца. Мае выпадковыя суседзі нічым асаблівым не вылучаліся ў сваёй гутарцы, апрача слоўцаў, ад якіх вушы ападаюць...

Праходзіла прыгожая дзяўчына, і адзін з гэтых малайцоў сказаў ёй такое, што ганебна было б напісаць!

Я не вытрымаў:

— Ведаеш, — кажу яму, — калі б я меў пры сабе штрафныя білеты, дык уляпіў бы табе тысячу злотых штрафу!

— Што ты гэта прыдумаў, стары? — абурыўся малойчык. — Ты хочаш ад мяне ў зубы?!

— Гонару ў цябе на грош няма! — плюнуў я і адыйшоў.

Я і сёння ўсё думаю пра гэтае здарэнне, так яно мяне ўстрывожыла. На жаль, цяпер гэта не вялікая рэдкасць. Чыя тут віна ў гэтым усім?

**Валянцін Семянюк,**
**Райкі.**

таццa на бацькаўшчыне. Хацеў бы дзед Антон пакарыстацца хаця б у апошнія гады свайго жыцця рознымі камбатанцкімі ільготамі і прывілеямі. Хацелася б яму таксама бачыць, што ягонае змаганне мела нейкі сэнс, што знаходзіць яно прызнанне і ў людзей, і ва ўлад... Ён з гордасцю паказваў мне свой чырвоны партыйны білет. Не адрокся ад яго, ганарыцца ім. А тым часам Антон Акоцюк ніяк не можа прабіцца ў члены камбатанцкай арганізацыі.

— Напрымалі туды розных, нават такіх, што адразу пасля вайны ішлі супраць народнай улады, а пасля расстараліся пасведчанні, што яны ваявалі ў радах Арміі Краёвай... А я ад 1945 года ў партыі...

Разумею гнеў і горыч гэтага чалавека. Ды не першы раз сустракаюся я з праявамі падобных адносін да людзей, якія свае найлепшыя гады жыцця прысвяцілі народнай справе. На жаль, не ад мяне, ад журналіста беларускай газеты, залежыць вырашэнне гэтай адзіночнай справы дзядзькі Антона Акоцюка ды і самой праблемы ў цэлым. Папрасіў я ў яго, каб напісаў нам у рэдакцыю пра сваю „справу“, каб падмацаваў яе дакументамі. Прайшло вось ужо некалькі месяцаў часу ад маёй пабыўкі ў Рагачах, а я нічога, на жаль, ад яго не атрымаў. Можа яму не захацелася пісаць, можа не змог, не ўмеў? То ж і так бывае, што лягчэй старому селяніну абмалаціць цэпам капу жыта, чымсьці пяром запоўніць адну старонку паперы. А можа яму проста збрыдла ўся гэтая бюракратычная калатня і на сваім 81-ым годзе жыцця рашыў плюнуць на ўсё...

Памятаю, што мне і маім спадарожнікам тады, у хаце Антона Акоцюка, стала неяк сумна. А тут цётка Марыя яшчэ дакінула:

— І наша радня таксама за гэтага Косціка, брацікa майго, што заўчасна загінуў, замучаны бандытамі, нічога, ніякай пенсіі, ні ўспамогі не атрымала...

Гаварыла гэта яна, не адхіляючы галавы ад кудзелі, не спыняючы журкатлівага калаўротка, быццам бы сама да сябе. У хаце ўсе замоўклі.

І мне здалося, што ўжо пара на развітанне. Ужо на панадворку звярнуўся я да дзеда Антона:

— Значыць, гэты брат Мікалая Бартнічука жыве зараз у Мілейчыцах?

— Хіба яшчэ жыве...

— Ведаеш, — сказаў мне М. Вішанка, — гэты Бартнічук у часе гітлераўскай акупацыі ваяваў у арміі Андэрса.

Ці трэба лепшай ілюстрацыі навейшай гісторыі нашага народа, калі бацька, вясковы пастух, змагаўся за лепшую долю ў радах падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а сыноў яго вайна раскінула па далёкіх краінах свету?! Найстарэйшы, Ян, найперш быў салдатам Войска Польскага і абаронцам Варшавы, а затым трапіў ён ва ўзброеныя польскія сілы на Захадзе, з якімі (у II Польскім Корпусе пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса) прайшоў баявы шлях ад Ірана, Ірака і Палесціны аж да Італіі, уключна з удзелам у бітве за Монтэ-Касіна.

Крыху малодшы яго брат Мікалай найперш арганізаваў антыфашысцкае падполле і савецкую партызанку ў сваім родным наваколлі, а затым паспеў яшчэ павяваць таксама ў Войску Польскім, але ўжо пад камандай генералаў Зыгмунта Берлінга і Станіслава Паплаўскага. А з ім разам — і трэці сын Сцяпана Сафронавіча Бартнічука — Павел, які зараз абсталяваўся аж у Данбасе... Ішлі яны рознымі шляхамі, але змагаліся з тым самым ворагам і аднолькава глядзелі смерці ў вочы..

Пра ўсё гэта, вядома, даведаўся я крыху пазней, калі ў Мілейчыцах, на ціхай Броварнай вуліцы, адшукаў я Яна Бартнічука, які папрасіў мяне, кабназываць яго Іванам, або звычайна Ванькам, як называлі яго ў сям'і, як звярталіся да яго ўсе сябры і знаёмыя.

— Нарадзіўся я ў 1906 годзе у вёсцы Рагачы, — распачаў свой расказ дзядзька Іван. А я прадоўжу яго ўжо наступным разам.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Насмяшыла ты мяне, дык насмяшыла! Няўжо і праўда, ёсць яшчэ на свеце дзяўчаты, якія, здраджваючы свайму хлопцу, спакойненька прыходзяць да яго і выкладаюць, як было, з кім было, калі было?!

Гэта твая дурніца Валя не мела, відаць, нічога лепшага да работы, дык і пачала малоць, што сліна на язык прынесла. А каб вось нічога не сказала, то ўсё было б у парадку, праўда? Яшчэ, можа, і на руках бы насіў, пальчыкі ног цалаваў бы...

Падумаеш! Узяла ды й расказала. Гераіня! Ну, і што, палягчэла ёй?! У мяне вось ёсць сяброўка: у яе такія справы на парадку дня. І, думаеш, каецца? Наадварот, усё паўтарае, што дробная здрада толькі ўмацоўвае яе пачуцці да „свайго“ хлопца. Ёй зусім добра і лёгка: танталавы мукі не ў яе стылі.

А найцікавейшае гэта тое, што хлопец яе за ёю шалее, хутка збіраюцца нават узяць шлюб. Часамі, праўда, мне прыходзіць у галаву дзіўная думка, што будзе гэта смешная пара, але сяброўка пераконвае мяне, што, маўляў, паглядзіш, якая цудоўная будзе ў мяне сям'я.

Думаю, што ты, Сэрцайка, у гэтай справе крыху памылілася, апраўдваючы Валіну шчырасць. Не заўсёды шчырасць аплачваецца. І часам лепшая была б разумная мана, чым дурная праўда.

Здаецца мне, што, разважыўшы ўсё спакойна, ты, Сэрцайка, прызнаеш мне рацыю.

**Тоня**

Тоні! Адказваю на тваю тыраду па пунктах.

1. Аб сваіх здрадах актуальным дзяўчатам вельмі часта расказваюць мужчыны. Крыху падхваліцца, а мо дзе што і дадаць — гэта ў мужчынскім гусце.

2. Дзяўчаты, нават калі і здраджваюць свайму хлопцу, расказваюць аб гэтым у дэталях рэдка. Сваю здраду яны найчасцей прыкрываюць далікатнай абалонкай: што камусь там спадабалася, што за ёю ўхажвалі, але пра ложкавыя справы гавараць рэдка. Валя ўсё ж аказалася іншай, і цяжка сказаць: лепшай ці горшай. Проста — іншай. Узяла ды шчыра расказала свайму хлопцу аб тым, як і што было.

3. На руках хлопцы носяць дзяўчат найчасцей тады якраз, калі штосьці ведаюць або падазраваюць. Тады і пальчыкі ног могуць пацалаваць.

4. Сям'я тваёй сяброўкі будзе з тыпу сямей на Захадзе. Жэняцца там найчасцей з рассудку, дык і жывуць, рэдка разводзячыся. Але і без узрушэнняў, без вялікага кахання. Спадзяюся, што твая сяброўка ведае, што робіць. **Сэрцайка**

## ЛЮДЗІ ХОЧУЦЬ БЫЦЬ РАЗАМ!

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ!

**У рэдакцыю з розных куткоў краіны і з-за мяжы прыходзяць лісты. Лісты — ад беларусаў, якіх лёс параскідаў па краіне, па свеце. Але нягледзячы на тое, што апынуліся яны нараз у зусім іншым свеце, у іншым асяроддзі і сярод усё ж крыху іншых людзей, нешта іх цягне да сябе, дзе б не давялося ім жыць і працаваць. Цягне, калі прысылаюць па некалькі лістаў, просячы рэдакцыю змясціць іх у газеце.**

Адны хацелі б пазнаёміцца і проста перапісвацца, абменьвацца кніжкамі ці паштоўкамі. Іншыя ж хацелі б знайсці пры нашай дапамозе спадарожніка жыцця.

Усе яны не памыляюцца: якраз газета можа адыграць у гэтай справе немалую ролю. І тут на думку ўсплывае справа незабыўнай Любы Кулыгінай. Была гэта наша вядомая спявачка і дзяячка БГКТ. Яе звонкі голас быў чуваць на кожнай беларускай імпрэзе ў Беластоку, была яна завадатаем і на БГКТоўскіх вечарніцах для дарослых, і на ёлках для дзяцей, якія арганізоўваліся ў ГП.

Гадоў 20 таму назад у „Беларускім календары“ быў змешчаны здымак Любы. Са здымка прыгожымі вачыма глядзела жанчына з прамяністай усмешкай. І ўбачыў гэты здымак Валодзя Рудзінскі з далёкай Англіі. „Беларускі каляндар“ ён чытаў пастаянна. І захацеў Валодзя пазнаёміцца з Любай: зачаравала яго яе ўсмешка. Напісаў ён ліст і запрасіў наведаць Манчэстэр. Люба паехала на два тыдні з адным чамаданчыкам, але Валодзя яе адтуль ужо не выпусціў.

Такім чынам, дзякуючы „Беларускаму календару“, паўстала новая сям'я. Людзі знайшлі адзін другога, хаця жылі за тысячы кіламетраў ад сябе.

Дык вось і мы б вам хацелі пажадаць гэткіх прыгожых і радасных сустрэч. Няхай яны будуць больш ці менш важныя, але заўсёды няхай будуць добрыя! А мы са свайго боку будзем спрыяць вам, як толькі патрапім. Гэта можам абяцаць!

Сёння на пачатак змяшчаем урывак з пісьма нашай чытачкі. **„Медсястра, 27 гадоў, жыхарка Гданьска, ахвотна пазнаёмілася б з мужчынам адпаведнага ўзросту, праваслаўнай веры. Лісты можна пісаць на адрас: L.S., skr. poczt. 2, 80-958 Gdańsk.“**

## СОННІК

17

**Вайна** — весці яе — бараніся ад ворагаў; ісці на яе — канфлікт з вышэйшымі ўладамі.

**Валакно** — няпэўны заўтрашні дзень.

**Валасы** — абрэзваць — смутак; на руках — няўдачы; доўгія — значэнне і ўлада; мыць — неспакой; звязваць — клопаты, праблемы; чырвоныя — фальш; чорныя — шчасце; бландзіністыя — радасць; белыя — пацеха; часаць — страта ў маёмасці, справах; косы — асмяшэнне; кудзеры (локаны) — заробак для дробных рамеснікаў: выпадаюць — смутак, клопаты; спальваць — здрада, нешчаслівае жыццё; астрыгчы — смерць у сям'і; раскудлачаныя — непаразуменні ў сям'і; фарбаваць — крывадушнасць.

**Валацуга** — благая кампанія, неспакойнае жыццё.

**Валец** — прыкрасці.

**Вальс** танцаваць — выпадковы сябар; бачыць танцуючых — каханне без узаемнасці; іграць — многа задавальнення; чуць — карыстайся маладосцю.

**Вандраўнік** — цябе чакае падарожжа.

**Вандроўка** — смутак закончыцца радасцю; па пустэчах — хвароба.

**Ваніль** — увойдзеш у шанаваную і выбраную кампанію.

**Ванна** — дабрабыт; купацца ў ёй — цябе чакае лячэнне; ванны пакой — сорам.

**Вантробы** — хвароба.

**Вапна** — твая зласлівасць давядзе цябе да няшчасця.

**Варажыць** — абыдуцца з табой няўдзячна; варожка — шчаслівае жыццё.

**Вароны** — смерць; лавіць — нязгода; на дрэвах — сямейны збор; крачуць — благія звесткі.

**Вароты** адчыненыя — гасцінны прыём.

**Варта** — папярэджанне, клопаты.

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

З інфармацыі найстарэйшых жыхароў усходняй Беласточчыны вынікае, што ў мінулым многія духоўныя стараліся перашкодзіць маладым і вясельнікам у правядзенні такіх ці іншых захадаў, сутнасць якіх зводзілася да забабоннасці. Гэтыя духоўныя стараліся растлумачыць людзям, што лёс маладых не залежыць ад такіх ці іншых забабонаў, а залежыць ён толькі ад волі і высакароднасці Бога. Аднак забабонныя захады і практыкі, якія фактычна ў большай ці меншай ступені звязаны з язычаствам, аказаліся на многа мацнейшыя ад хрысціянскіх павучэнняў. З гэтай прычыны духоўныя найчасцей прыкідваюцца, што не заўважаюць гэтых практык.

Пасля шлюбу маладыя прымалі віншаванні, пажаданні з боку вясельнікаў і накіроўваліся ў бок фураў. Стараліся ісці, прытуленыя адзін да другога. Шчыліна паміж маладымі прадвяшчала б сямейны раскол у будучым жыцці. З царквы маладая пара ехала на адным возе, які быў, як правіла, запрэжаны ў кабылу і каня. Конь і кабыла гарантавалі, што сям'я дачакаецца хутка дачкі і сына. Калі маладажоны прагнулі мець адных сыноў (наогул не было такіх пар, якія хацелі б мець адных дочак), тады запрагалі ў фуру толькі коней або жарабцоў.

Калі вярталіся з царквы, вясельнікі маглі спяваць. І гэту магчымасць яны заўсёды выкарыстоўвалі ў поўным сэнсе гэтага слова. Спявалі вельмі многа. Шмат было гумарыстычных песень. Вось прыклад такой песні з Махнатага:

Обманулі попа,
Як простого хлопа,
Далі ему золотоўку,
Поп подумаў: сторублёўка.

І з Адрынак:

Дякуем попові,
Дякуем дякові,
Што пару нашу звінчаў,
Не много грошы узяў:
Чатыры золотые
За нашы молодые.

Існавалі таксама тэксты, якія спяваліся пры ўездзе ў вёску маладой. Прывядзем тут тэкст з вёскі Рэдуты:

Уезджаем у сэло,
Усім людям вэсэло.
Конікі вороные,
Сватkове молодые,
Пэрша наша квітка (імя маладой),
Друга наша квітка (імя маладога),
Уезджаем у сэло.
Усім людям вэсэло.

Некаторыя песні з'яўляюцца рэхам тых адлеглых часоў, калі вясельныя біседы праводзіліся не ў хатах, а ў карчмах. Звычай гэты пачаў занікаць ужо ў пачатку XX стагоддзя, аднак рэшткі яго захаваліся ў некаторых песнях да сёння. Вось прыклад такой песні з вёскі Слабодка:

Шынкарочку, шынкарочку,
Адкрывай камарочку,
Засцілай сталы, лавы,
Едзе госць небывалы.
Тые госці — маладые,
Пад імі коні вараные.
Мы спяваем і рагочам,
Піці хочэм, есці хочэм.

Варта прывесці тут выказванні жыхаркі Лукі Анны Салоўскай, якая дасканала характарызуе шлюбны і пасляшлюбны настрой:

„Бывало ў цэркві то ніхто і ні усміхнецца. І як жэ будзеш там усміхацца, калі здаецца табе, што над тымі маладымі ні тольki усе святыя, але і сам Бог невідучы летае. Вельмі воно было і святочно, і ўрачысто, і нават як бы і страшнавато. А ужэ калі вано усё закончылаcе ў цэркві і васельнікі пасядалі на вазы, то тады ужэ, што хочэш: і смех, і рогат, і дурацкі жарты. А бывало, што той-сёй з світкі або з торбы з аброком для коней достане бутэльку з гарэлкаю і нахлебчацца. То такі тобе так прыдурэе, што і пад спадніцы дзеўчатам лезе. Ну, але такому то можно было і кулаком па мордзі ляпнуць. Але за гэто усё ніхто і не злаваў, наадварот толькі радасці і смеху прыбыло. А як спявалі, ой як спявалі! Ні тое, што цяпер, ні тое“.

А. Баршчэўскі

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Рыгор Бохан

## МАЙ

З песняй звонкай
на прасторах
Ён, расквечаны, ідзе.
Сустракаюць птушкі хорам:
— Май вясёлы, добры дзень!

У святочнай ён апратцы,
Слаўны пасланец вясны —
Месяц сонца, дружнай працы,
Месяц цёплай баразны.

Мікола Алтухоў

## ПРАЛЕСКА

Запахла над вогкімі вербамі
Вясновай вясёлкай, калі
Пралеска прачнулася, першая,
Як сіняе вочка зямлі.

Пралеска, нібыта разведчыца,
Куток аглядае вясны:
Ці варта ўсёй арміі кветачнай
З'яўляцца на заклік вясны.

Глядзіць і глядзіць
насцярожана
Пралеска да позняй пары:
Дагледжаны лес, як належана,
Набыў абаронцаў стары?

Трывожнаю звонкаю ранінай,
Якая ўсіх кветак святлей,
Прырода, здаецца, пытаецца:
Чаго ёй чакаць ад людзей.



У школе ў Дубяжыне дзявочы гурток ручных работ, які працуе пад кіраўніцтвам настаўніцы Валянціны Шарко, вырабляе розныя цудоўныя рэчы — вышываныя абрусы і сурвэткі, дэкаратыўныя дыванікі на сцяну, добрыя падарункі для сяброўак, а таксама прыгожыя карціны. Вышываныя карціны іх работы ўпрыгожваюць школьны калідор. На здымку: дзяўчаткі з гуртка ля гэтых карцін.
Фота Я. Чэрнякевіч

Данута Бічэль-Загнетава

## СЛОВЫ

Няма святлейшых слоў —
Вясна,
Радзіма,
маці!
Ля сэрца іх трымайце
і паўтарайце зноў...
Няма раднейшых слоў.

## МАК

Ужо спявае шпак!
Звяно прайшлося строем
ля помніка героям
і пасадзіла мак.
Зацвіў, палае ён,
Нібы сцягоў усплёскі,
на плошчы нашай вёскі.
А вёска сее лён.



Сёстры Эля і Аня Касакоўскія вельмі прыгожа спяваюць. Ведаюць шмат рускіх і беларускіх песень і спяваюць іх на два галасы.
Фота Я. Чэрнякевіч.

## ПАСАДЗІЛІ ЛЕС

Адно дрэва дае кіслароду для дыхання пяці асобам. Здараецца цяпер, што ў некаторых нашых гарадах дрэвы сохнуць. Дзеецца гэтак таму, што гарадское камунальнае прадпрыемства сыпле зімою замнога солі на вуліцы, а яна шкодзіць дрэвам і кветкам. Шмат маладых дрэўцаў гіне ад машын, якія людзі часта ставяць на траўніках, наязджаючы на маладыя дрэўцы.

Усе мы павінны браць удзел у ахове лесу і яго нованасаджэннях. Лес сам не абароніцца, трэба садзіць лес усюды, дзе толькі можна.

У 1985 годзе на закінутых і незагаспадараных землях бельскія школы садзілі лес. Комплекс эканамічных школ у Бельску пасадзіў лес на 17 гектарах, беларускі ліцэй імя Б. Тарашкевіча — на 10 га, Медыцынскі ліцэй — на 5 га.

Пачатковая школа ў Баньках пасадзіла лес на 3 га, хлопцы і дзяўчаты школы ў Малінніках — на 2,5 га, дзеці са школы ў Храбалах — на 2 га, дружныя хлопцы з Аўгустова, што каля Бельска, — на 1 га.

Пачатковая школа № 4 у Бельску пасадзіла лес на 0,5 га, а школа № 2 — на 0,7 га. Комплекс будаўнічых школ абсадзіў лесам 1.6 га.

Андрэй Гаўрылюк

Іван Мядзведзеў

## ЗОРАЧКА

Магутная рака стагнала пад цяжарам людзей і тэхнікі, што перапраўляліся па пантонным масце, наведзеным сапёрамі. У адзін бок — на захад — рухаліся бясконцым патокам танкі з задранымі ўгору жэрламі гармат, цягачы, машыны, павозкі, ішлі салдаты. У другі — на ўсход — бежанцы. Алёшка памятае, як захапіла дух, калі ён ступіў у гэтую людскую цясніну, пераменшаную з машынамі. Ён моцна трымаўся за прыпол матчынай спадніцы, баючыся згубіцца. У яго назаўсёды засталася ў галаве сустрэча з бацькам, які камандаваў пераправай, у танкісцкім шлёме і замасленым камбінезоне, без шыняля, нягледзячы на пякучы асенні холад. Тут жа стаяў яго танк з адчыненымі люкамі.

Такія сустрэчы на франтавых дарогах бывалі частыя, але не працяглыя. Сыдуцца выпадкова людзі, а пагаварыць няма калі, і зноў разыдуцца, магчыма, назаўсёды.

Так было і з Алёшкам. Тады ён моцна прыціснуўся да роднага бацькавага твару, усхліпнуў ад радасці і цалаваў яго ў цёплую калючую шчаку.

Ад той сустрэчы ў яго засталася толькі маленькая бацькава зорачка з афіцэрскага пагона з адным адбітым кончыкам. Вось і ўсё, што нагадвала цяпер яму аб ім.

Потым яны выбраліся з цеснага людскога патоку, доўга стаялі з маці на крутым высокім беразе ракі, і, гледзячы ўслед салдатам, махалі ім развітальна рукамі.

Бацька загінуў у самым канцы вайны ў Берліне, калі яго камандзірскі танк, зрабіўшы апошні стрэл, спыніўся перад нямецкай дзяўчынкай, што бегла насустрач. Ён вылез з люка, падняў дзяўчынку на рукі. Хударлявы дзіцячы тварык з завостраным ад голаду носікам і памутнелым позіркам заззяў даверлівай усмешкай, калі дзяўчынка апынулася на дужых руках свайго выратавальніка. Але аднекуль зверху застрачыў варожы кулямёт, і, прашытыя чаргой, яны ўпалі мёртвымі каля гусеніцы: яго, Алёшкаў, бацька, рускі маёр, і бялявая нямецкая дзяўчынка з застылай на вуснах усмешкай...

У Алёшкі захаваўся бацькаў здымак, дасланы з апошнім пісьмом. Па ім ён зрабіў мініяцюрны бацькаў партрэт, прысадзіў зорачку і ўсё гэта паклаў у металічны карабочак...

Калі ж Алёшка прызваўся ў армію, у танкісты не трапіў, хоць вельмі хацелася пайсці бацькавай дарогай. Стаў шафёрам. Звольніўшыся з арміі, прафесіі не памяняў, пайшоў працаваць шафёрам, ездзіў на грузавіку. Аляксей бярог сваю машыну.

Груз вазіць далекавата, дарога кепская. У адным месцы трэба было ехаць па лёдзе возера, ужо з'едзеным сакавіцкім сонцам, адліжнымі дажджамі. Магутны КрАЗ, пыхкаючы клубамі дыму, цягнуў, як апантаны,

(Працяг на стар. 10)

